Год II—1913. Чэрвень. 14-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

На выстаўцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

---

Падпісная цана на 1 год **1 р. 20 кап.** на 6 месяцоу **60 кап.**, за перамену адрэсу **20 кап.** Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Віленская 29.**

---

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

---

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40 к.**, за тэкстам **20 к.** За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу **7 руб.** ад тысячы

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Годъ II—1913. Чэрвень. 14-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



# Як павялічыць даход з гаспадаркі.

Кожны хлебароб, калі хочэ наладзіць сваю гаспадарку так, каб яна давала яму большы даход, і мець з яе грошы на ўселякіе свае патрэбы, дый не цягацца па чужых краёх, шукаючы заработкаў, павінен зьвярнуць усю сваю ўвагу на млечную гаспадарку.

Прадавай карове ўсе свае зямельные прадукты: сумысля засевай для яе розные расьліны, здавай ёй у арэнду сваё поле, садзючы для яе пажыўны корм, як бульба, буракі, морква, а яна табе у дзесяць столак лепш заплаце і за збажыну, і за арэнду, чым які гандляр.

За апошніе колькі гадоў малако, масла і мяса падскочылі ў цане, бадай, больш, як у два разы. Даўней гарнец малака быў кап. 8—10, а цяпер па гарадох, калі толькі малако пэўнае—печатанае—за кварту гоняць 8 кап. Таксама шалёные цэны і на масла, і на сьметану, і на мяса.

А чаму? Людзей прыбыло па вёсках, а па гарадох —ешчэ больш; бяз млечнаго, ці мяса ніхто ўжо цяпер не абходзіцца, а тымчасам, хоць кароў на вогул і прыбыло, але малака і мяса паводлуг патрэб зьвялічыных—заўсёды нехват. Дык вось да выработкі гэтых дарагіх прадуктоў мы і павінны кіраваць свае цяперашніе гаспадаркі.

Дагэтуль ад кароў сваіх мы ня толькі ня мелі чаго прадаваць, але і для сваей сям'і не хапала малака. Дый ня дзіва. Кароў сваіх марылі голадам праз увесь год. Летам—ганялі мы іх ад 3-яй гадзіны зраньня да 9-ай вечара па голых выганах; зморыцца толькі скаціна і варочаецца дамоў галодная; зімой—напіхалі націнальнай (звычайнай) трасяначкай, ад каторай на вясну кароў сваіх прыходзілося падымаць за хвасты. Сорамна нам, дапраўды, так зьдзекавацца над сваей жывёлай! Шмат хто атказываецца тым, што так рабілі дзяды нашы, дык гэтак раблю і я. Праўда, што дзяды нашы ніякіх траў для скаціны ня сеялі, але ім гэтаго нятрэба было і рабіць: даўней жывёлы было шмат меней, а пашы куды болей, дык скаціна галоднай с поля ня прыходзіла. Німа ўжо цяпер ані тых вялізарных абшараў—выганоў, ані тых непраходных лясоў с травой па пояс—перамянілося ўсё, дык і нам прыходзіцца перамяніць даўнейшые спосабы гаспадаркі—на новые—прытасованые да цяперашніх варункоў жыцьця.

На гэтые куртатые і голые выганы, мы можэм выпушчаць сваіх кароў толькі прайсьціся—для здароўя, карміць-жэ сваю скаціну трэба з рук: і выпраўляць, і спатыкаць яе з зялёным кормам.

Заместа таго, што цяпер нашы папары валяюцца ня толькі бяз ніякай карысьці, але нават са шкодай для самой гаспадаркі, бо скаціна, ходзячы па голым бубне. толькі псуе зямлю —ўбівае яе, мы можэм і павінны засеваць на іх розные травы на корм для сваей жывёлы.

Перш-на-перш трэба ў сябе заводзіць канюшыну, каб было што укасіць як найраней з вясны на падкорм жывёле. Дзеля гэтаго некаторые гаспадары засеваюць з восені нават жыто, а вясной гэту рунь косяць на корм каровам. А каб нябыло недахвату зялёнай пашы праз усё лета і восень,—с самай вясны ў жыта ўсяваюць сэрадэлю—яна разрастаецца пад восень і можэ трываць ажно да марозаў; на корм сярод лета, так сама што найраней з вясны, сеяць у папары шпэргель (ён скора узрастае); апрача таго ў папары трэба пазасеваць то раней, то пазьней розные мешанкі (гарох, авес, выку, ячмень і т. п.), мяркуючы так, каб праз ўсё лета быў сьвежы корм для нашай жывёлы.

Трэба толькі памятаваць, што ўсе гэтые расьліны можна трымаць на папары толькі пакуль не закрасуюць, а тады ўжо трэба ўсю красуючую мешанку касіць. Бо, калі перэстаіць яна і завяжэ насеньне, то жыто ня будзе такое ўдалае.

На зіму-ж для кароў трэба так сама прызапасіць больш пажыўнаго корму. Дзеля гэтаго павінны мы больш засеваць бульбы, а апрача таго, дзе земля падхадзячая—садзіць кормную моркву (на лягчэйшых грунтах), ці кормные буракі (на грунтах цяжэйшых), і гэтым прыкормліваць свае каровы.

Карова, гэта бытцам машына: мы ёй даем корм, а яна, перэрабіўшы яго, аддае нам малаком. Дык чым больш і сыцейшаго корму мы ёй дадзім, тым болей лепшаго (тлусьцейшаго) дасьць яна нам малака,—тым даражэй, значыцца, яна нам заплаце.

За граніцай аб гэтым усе людзі перэканаліся ўжо даўно, дык і млечная гаспадарка дае там вялізарные даходы: кожная карова дае ім ня менш 200 рубл. у год. Зродные нам Чэхі, хоць не так даўна ўзяліся каля сваей гаспадаркі, а і то маюць заработку ад каровы 100—150 рублёў.

Латышы, каторых варункі жыцьця шмат былі горшые, чым у нас, бо і зямлі сваей нямелі, дзякуючы толькі добраму дагляду сваіх кароў, з беднаты дайшлі да багацьця.

Нашы суседзі—польскіе хлебаробы так сама пачалі ўжо кратацца: добра кормяць кароў, закладаюць супольные млечарні і т. п., і, як на першы пачатак, ня дрэнную ўжо маюць заплату; бо з аднэй каровы выбіраюць чыстаго даходу рублёў 50.

Гэткіх заработкоў прапушчаць шкада. Варта было-б, дый пара і нам аб гэтым падумаць.

**А. Бэнэцэвіч.**

# З маей гаспадаркі.

Гаспадарка — клапатарка, кажэ наша прыказка; заходу шмат—карысьці мала. Праўда,—дый ня зусім.

Да 1906 году гаспадарка мая ня толькі што не давала ніякога даходу, але трэба было да яе ешчэ дакладаць с кішані, ня лічучы дармовай працы васьмі узрослых чэлавек. Жыта нажыналося ўсяго коп 30—35 і то на палову з гірсай, дык ледзь толькі хапала атсеяць, дый на хлеб,—ўсей заплаты за цяжкую працу.

Скаціны (коней, кароў) было штук 15. Гною было саўсім нямнога, бо салома хутка ўцекала ешчэ зімой. У хлеве было гразка; гнаёўка мейсцамі сьцекала на старану. Каб усяму гэтаму зараіць, прышлося вазіць у хлеў на падсьцілку паперамена: зямлю, пясок, лапкі яловые, сасновые, пад'ялоўцавые, галіны бярозавые, асіновые, ліповые; мох, лісьці з лесу; купіны с сенажаці, кару з дрэва, апілкі ад пілоўкі дошчак, уселякіе травы ад поліва агародаў і рознае смяцьцё.

Усё гэта рабілося так. Пярвей я прывёз вазы чатыры зямлі і раскідаў яе дробна па ўсяму хлеву. Земля гэта добра зрабіла—памагла зразу: ўцягнула яна ў сябе ўсю гнаёўку. Пасьля прывезлі з лесу яловых і сасновых сукоў—лапак, пасеклі дробненька (ад 5 да 8 цаляў) і разаслалі па усяму хлеве. Далей падсьцілалося ўжо ў меру патрэбы, то мохам, то лапкамі, то лісьцямі, награбленымі ў лесе, перакладаючы, час—ад—часу, то дробна пасечанымі купінамі, то пяском, ці зямлёй, а калі ня было часу, заместа пяску падсьцілалося апілкамі і дробнай карой ад скабленьня бярвеньнеў.

Яловые сукі я церабіў асьцярожна і толькі каля самаго нізу дрэва; ужываў я іх меней дзеля таго, што мне шкада было ёлак, бо яны ня любяць гэткай над сабой апэрацii і пасьля хварэюць; не так баяцца гэтаго другіе дрэвы: ліпа, бяроза, асіна, сасна. Найболш цягаў пад'ялоўцу, ані крыху яго не жалеючы, бо ён толькі замінішчэ ў лесе.

Ад такой подсьцілкі гною павялічылося ў разоў пяць, калі ня болей, бо ўжо ў 1908 гаду хапіло яго зявезьці ўвесь палетак пад жыто. А які добры быў гной! Гэткая розная мешаніна подсьцілу, а асабліва спарашкаваные купіны ўцягівалі ў сябе ўсю гнаёўку, дык гной быў сільны, пажыўны для расьлін і жыта на нім было вельмі ўдалое; замест, як даўней, 30-ці нажалі блізка соткі копаў(насеньне жыта я адмяніў, бо сваё было з гірсай і зьвесьці яе было вельмі трудна).

Пасьля жыта на гэтак угноеным палетку, само сабой разумеецца, і другіе пасевы сталі даваць лепшые ўраджаі. Але і гэтаго ешчэ было мне мала. Я зразумеў ужо, што калі адкінуць старые парадкі, а добра завіхнуцца, то ўраджай можна ешчэ шмат павялічыць.

Перш-на-перш я стараўся, каб на зіму не заставалося ані скібы цаліны: загорываў усё, але не баранаваў; на вясну, за-

баранаваўшы, скібы ўжо не адварачываў, каб не перасушываць лішне зямлі, а сеяў усё пад спружыноўку, і нішто мне так не памагало ў гаспадарцы, як гэтая самая спружыноўка: работа ідзе спорна, зямлю вырабляе добра, бо ўсё зельле павыдзірае, зьніштожэ.

Заводзячы новы лад у сваей гаспадарцы, здарылося мне так, што частка бульбяньня трапілося ў папары. З вясны я крыху пабаранаваў, а пасьля, заняўшыся іншай работай, ня меў часу на пару падняць гэта бульбяньне, дык так яно і засталося.

Праз лета земля так сцаглела, што ўбіць нарог туды нельга было і думаць; нават трава там не ўзелася, а толькі пайшоў бытцам нейкі мох зьверху. У палове ліпня я падзёр гэты кавалак спружыноўкай удоўж і ўпоперак, пачынаючы сьперша запушчаць зубы на цалі тры, а на астатак узяў ўжо на цалёў восем. Земля вырабілася, як мае быць. У канцы ліпня гэты кавалак я падмешаў, а каля 13 серпеня пасеяў жыта. Ураджай быў дужа добры.

(**Ад рэдакціі.** Абмылка гаспадара была ў тым, што бульбяньне ня трэба было так кідаць, а з вясны падсеяць сэрадэляй, лубінам, ці так чым; напр. шпэргелем на пашу, гарохам—пялюшкай і т. п.).

У гэтым самым гаду як раз трапіўся і другі кавалак папару, каторы позна загаралі. Падыйшла пара сяўбы, мешаць было некалі, дык я і пасеяў яго ў адну ральлю, але пад спружыноўку і жыта так сама было ўдалае.

Разумеецца, там—дзе ўжо гаспадарка як сьлед наладжэна—гэткіх неспадзевак у рабоце ня будзе, але я толькі дзеля таго гэта успомніў, каб паказаць, як можна ратавацыа ў бядзе пры помачы спружыноўкі.

Быў ешчэ ў маей практыцэ і такі прыпадак. Прыйшлося вясной вазіць гной пад авес і ячмень; а што суш была вялікая,—баяўся я і без таго сухую зямлю, высушыць яе, перэварачываючы плугам, ешчэ горш, дык. пасеяўшы зярнё, пусьціў спружыноўку; гной прыкрыўся ня згорш, а як авес, так і ячмень удаліся добра.

А было ешчэ і так: не хапіло мне гною пад жыто. Награбіў я тады ў бярозавым лесе лісту (грабіў глыбока — разам з даўнейшым перагноем) і адразу завесшы на поле, растрос роўненька і загараўшы усьлед, пасеяў жыта. Ураджай вельмі ўдаўся.

Адна нявыгода, што гаспадарка мая не на асабняку, а пры вёсцы, і то параскідана земля кавалкамі паміж суседзкай, дык, каб не калаціцца, трэба трымацца агульнага парадку і згоды. Так яно і ёсць у нас. Сеем мы канюшыну, крыху сэрадэлі, а цяпер заводзім і лубін. Дагэтуль мы гаспадарылі па старадаўному—трохпалёўкай, але цяпер пастановілі перайсьці па 6-ці палёўку, падзяліўшы кожны палетак на дзьве часьці, а с часам пяройдзем, бадай, і на асабнякі.

**Клапатар.**

# Як прытасовываць летнюю пашу паводлуг млечнасьці кароу (індывідуальное кармленьне).

Кожны, бадай гаспадар прыкмеціў, што карова, калі выйдзе на пашу, перш-на-перш саскубывае толькі самые вярхочкі травы і не затрымліваючыся, ідзе і ідзе наперад; пасьля варочаецца на тое самае мейсцэ і з'едае ўжо сярэднюю часьць травы, а ўрэшце, калі і з гэтым управіцца, выгрызае тады траву да чыста—да самай зямлі.

На гэта некаторые гаспадары зьвярнулі ўвагу сваю і выкарысталі гэтые прывычкі кароў для сваей карысьці.

Усіх кароў падзялілі на тры группы: 1) каровы каторые, ешчэ недаўна ацяліліся; 2) даўней ацяліўшыеся і 3), каровы каторые ўжо мала доюцца, або цельные.

Пашу дзеляць на 10 вучасткоў і абгараджываюць кожны вучастак засобку жэрдкамі. Пасьля, першую группу кароў пушчаюць на першы вучастак пашы праз два дні, а группы 2 і 3 пакуль што трымаюць у хлеве; на трэйці дзень—першую группу перэганяюць на другі вучастак пашы, а другую группу кароў пасуць на першым; трэйцію — ізноў трымаюць у хлеве; ешчэ праз два дні — першую группу кароў заганяюць на трэйці—сьвежы вучастак пашы; другую—на другі, а трэйцію—на першы.

Вось у гэткім парадку праз кожные два дні і перэганяюць кароў, пільнуючыся, каб на сьвежы вучастак пашы ішлі перш каровы першай группы, ззаду — другой, а на астатку — трэйцей.

Пакуль дойдзе першая группа кароў да 10-го вучастка, на першым—ужо трава адскочэ і тады ізноў переганяюць іх на першы вучастак пашы, пільнуючыся таго самаго парадку, як і спачатку і т. д.

Пробы гэткай пашы паказаліся вельмі карыстнымі.

**Інструктар скатаводства і млечнай гаспадаркі Л. Папроцкі.**

*Бабоуня, Слуцк. п.*

---

# Сушка сена у казлох (рэгелях).

Надыйшоў першы летні месяц чэрвень; надыйшла і самая гарачая рабочая пара для кожнаго хлебароба. Каму-каму толькі не хапае летам работы!

Першая летняя работа—сенакос. Добра, калі стаіць спрыючая пагода, але, барані Божэ, на дварэ разсліціцца, тады наша жывёла можэ астацца на зіму бяз корму.

Нашаму хлебаробу, каб пэўней абязпечіць свой дабытак на ўвесь год ад голаду, трэба брацца сушыць сена ў казлох (рэгелях). Зрабіць гэткіе казлы хіба што кожны гаспадар патрапіць, абы меў некалькі жэрдак, то больш ніякога дакладу ня трэба, а і заход сам зусім невялікі.

Трэба ўзяць дзьве жэрдкі па аршыны тры даўжыні, а таўсьціні—вяршкі со тры і ачэсаць іх на два бакі; на абчэсанай старане кожнай жэрдкі робяцца пяць знакоў на роўны размер адзін ад другога і ў гэтых мейсцах прабіваюць на які вяршок шырыні дзіркі навылет. Пасьля трэба узяць танейшые (1—2 вяршкі) жэрдкі па аршыны 4 даўжыні і уставіць іх у тые прабітые дзіркі (каб лягчэй яны ўлезлі канцы трэба зачэсаць). Вось гатова будзе адна старана казлоў (рыс. I), каторая выгледае бытцам шырокая драбіна. Калі гэткіх драбін прыгатоўлена некалькі, стаўляюць іх на полі дзе трэба сушыць сена па дзьве, зьвязываючы іх у вярхох, а ў нізе, зважаючы павэдлуг патрэбы, расьцягіваюць і казлы гатовы (рыс. II). На гэткіх казлох найлепш сушіць канюшыну, але, як беда прыцісьне, то можна ужываць іх і для сена.




Каб работа ішла спраўней, робяць так. Грабельнікі ссовываюць сена да пастаўленых казлоў, а двух работнікоў, стоючы абапал казлоў, накідываюць вілкамі сена на казлы, пачынаючы знізу, ажно ў верх і там пасьля трэба акуратна завяршыць. Абгладзіўшы скрось граблямі сена, каля самаго нізу трэба яго абскубсьці, каб вецер ня толькі збакоў, але і с пад споду прайма ў. На гэткіе казлы можна накладаць па пудоў 30—40 сена.



Гэтак зложэны корм можэ стаяць і праз даўжэйшы час, а ўпадку будзе зусім мала. Дык варта зьвярнуць увагу нашым гаспадаром на гэты некаштоўны спосаб сушкі сена і карыстаць з яго.

**Тэхнік сэлянскай гаспадаркі Шукаловіч.**

*Вільня 2/VI 1913 г.*

# Сушка корму.

С сенам з лугоў на нашых дробных гаспадарках амаль не заўсёды спраўляюцца добра. Зразу па многа не накашываюць і абы крыху падсохла, сьцягіваюць яго на гумнішчэ, дзе ўжо гаспадыня дальш ім апекуецца: выганяе яна с хаты ўсю сваю сямейку і грамадой дасушываюць гэта сена не на граблях, як у нас кажуць, а проста на руках: і жук, і жаба — абы толькі поўзалі — жменькамі яго растрасуць, жменькамі яго і ў пуню затарабаняць, а гаспадар тым часам, маючы развязаные рукі, падганяе далей сваю мужчынскую работу.

Зусім інакшая справа с канюшынай, ці іншымі якімі колечы мешанкамі: за гэту важную работу нашы селяне ешчэ недаўна узяліся, а мейсцамі—нават толькі цяпер пачалі брацца, дык, мала маючы ешчэ практыкі, не раз глумяць сваё дабро.

Спосабоў сушэньня канюшчыны ёсць некалькі; ўсе яны добрые, а каторы с паміж іх выбраць, гэта ўжо справа самога гаспадара, каторы павінен, зважаючы на пагоду, пакіраваць работай.

Калі пагода сталая, пэўная,—трэба, завяўшые зьверху пракосы канюшыны, павярнуць на другі бок. Падварочываць трэба пракос да пракоса; гэткім парадкам с кожных двух пракосаў выйдзе адна града. Калі-ж надвяне і гэты бок, канюшыну скідаюць натрускам у сярэдняй вялічыні копы. Пры добрай пагодзе і ветры праз колькі дзён канюшына даходзе.

Калі пагода няпэўная, то найлепш на другі, ці трэйці дзень, абы канюшына крыху завяла, пастаўляць яе ў маленькіе копачкі, ці, як называюць іх, — хохлікі, або чубы. Ідучы пракосам, скачываюць канюшыну як бы ў невялікіе валікі, тут-жэ іх стаўляюць, а самые вярхі закручываюць, бытцам чуб, крыху ў ніз. Гэткіе чубы могуць стаяць на полі і праз даўжэйшы час, а як толькі пагода бліснe, трэба іх, не растрэсаючы, куляць толькі пад сонцэ, ці вецер, дый час ад часу паварачываць то на адзін, то на другі бок, ажно пакуль яны ня высахнуць.

Калі ж пагода здрадлівая і німа надзеі дасушыцца канюшыны на полі, то ўжо лепш узлажыць яе, абы крыху завяла, на казлы (як гэта апісана у стацьці „сушка сена ў казлох“, у гэтай кніжцы), або, хто мае азяроды,—ўазярэдзіць яе. У азяродах (мейсцам іх называюць: пярэплаты) канюшына можэ стаяць ажно да зімы і калі добра зложэна, то толькі зьверху пачарнее.

Адно ешчэ, што трэба добра памятаваць, сушачы і возячы канюшыну, ці хоць-бы і другіе якіе мешанкі: баяцца яны грабель, ак агню, бо ад іх крышацца ўсе найпажыўнейшые часткі мешанак: лісточкі, далікатные галінкі і краскі. Дык пры гэткіх работах трэба абходзіцца вілкамі, а толькі да самых пагрэбкаў можна ўжываць грабель.

**Ват—ка.**

# Аб вачкаваньні.

Ешчэ ў „Нашай Ніве“ 1912 г. ў № 1 і ў „Сасе“ таго-ж году ў № 4 былі аддрукованы рады, як сабе выгадаваць дзічкі. Але выгадаваўшы іх, ня кожны ведае, як трэба да іх далей узяцца, каб бардзей дачэкацца яблак, ігруш, ці сьлівак.

Калі дзічкі маем ужо гатовые, калі, значыцца, дарастуць яны таўсьціні з гусінае пяро, тады пара іх шчапіць. Але цяпер мала ўжо хто шчэпіць, бо ёсць шмат лягчэйшы спосаб, каторы лепей нават усякаму ўдаецца—гэта *вачкаваньне.*

Як да шчапеньня патрэбны зразы (чэрэнкі) т. е. маладые гукі з апошняго году с таго дрэва, з якога хочэм завесьці фрукты, так патрэбны зразы (вочкі) і да вачкаваньня. Найлепшая пара да вачкаваньня, гэта месяцы—ліпень (другая палова) і жнівень, калі на дрэвах ёсць ужо патрэбные, досі зьдзярэвянеўшые зразы (вочкі) і калі кара на дзічках добра адстае.

Перш-на-перш трэба узрушыць зямлю у школцы, дзе растуць дзічкі і ачысьціць яе з уселякаго зельля, а самые дзічкі, не жалеючы вады, паліць, зулашча, калі стаіць суш. Бяручы зразы з узрослаго дрэўца, трэба ўважаць, каб яно само, як і самые зразы былі крэпкіе, здаровые і зьдзярэвянеўшые. Найлепшые зразы бываюць ад поўдзённай стараны дрэва. Зняўшы гэткі зраз, абрэзаюць на ім лісьці (робіцца гэта дзеля таго, каб зразік, паруючы праз лісьці, ня высыхаў), адно самые хвосьцікі толькі пакідаюць. Знятые зразы трэба трымаць у якой колечы пасудзіне з вадой, каторую ставяць у цяньку. Да вачкаваньня трэба мець с сабой дужа востры ножык, найлепш з асобнай для гэтай работы прыладжэнай на другім яго канцы костачкай *) (гэткіе ножыкі прадаюцца у складах гаспадарскіх суполак) і мацнаватае, але ня лішне тоўстае лыка з рагожы (так сама па гаспадарскіх складах прадаецца асобнае —лепшае да гэтай работы лыка, так званае—„рафія“).

Выбраўшы гладкое мейсцэ на самым нізе дзічкі—як найбліжэй пры корэні, абчышчаюць яго анучэчкай з зямлі і с паўночнай стараны нарэзываюць ножыкам у гэтым мейсцы кару ў поперак і уздоўж да самай дрэвясіны, каб з гэтых двух нарэзаў выйшла фігура такая: ┬. Тады бяруць у левую руку зраз тонкім канцом у ніз і, апёршы яго на другім пальцы рукі, роўным нарэзам ножыка правой рукі зрэзаюць з яго адно вочка разам з лістовым хвосьцікам і тоненькім пласьцікам дрэвясіны; туп'ём ножыка, або костачкай расхіляюць кару на ободва бакі у прарэзаным мейсцы дзічкі, куды і устаўляюць зрэзанае вочка, ўзяўшы яго за лістовы хвосьцік, і засовываюць пад кару ў ніз. Калі-ж яно будзе за лішне доўга, тады проці верхняй часьці знаку ┬, ізноў робяць па ём папярочны нарэз, каб аткінуць лішнюю часьць заложэнаго вочка над пучком і каб яно

---

АД РЭДАКЦІІ. Ешчэ лепшы да вачкаваньня ножык „Кюндэ“ с круглай галоукай; каштуе 95 кап.

сваёй верхняй сьценкай шчыльна прылягло да папярочнага нарэзу ⊤, т. е. да кары дзічкі, дый каб магло добра зрасьціся ў гэтым мейсцы с самой дзічкай. Пасьля завязываюць цеснавата лыкам у тым мейсцы, дзе устаўлено вочка, асабліва над і пад вочкам; адно толькі само вочка з лістовым хвосьцікам—мінаюць, бо-ж з гэтаго пучка вырасьце некалі ўсё дрэўцэ.

Як толькі вочка з дзічкай зрасьцецца, а гэта бывае праз тыдні 2—3, то хвосьцік, абы да яго дакрануцца, зусім лёгка адпадае. Тады пара перэвязаць, дый папусьціць лыка, каб не урэзалося ў жывое. Гэтым і канчаецца ўся работа пры вачкаваньні ў першым гаду.

Умелые агроднікі здыймаюць вочкі і бяз дрэвясіны, або, зняўшы з дрэвясінай, пасьля яе выкідаюць гэтым самым ножыкам, ці туп'ём сталёваго пера, але, не злажыўшыся, лепш гэтаго не рабіць, каб не наглуміць, бо, выкідаючы дрэвясіну з вочка, лёгка можна выкінуць разам з ёй і тую далікатную, зялёную мязгу (тканку), якая канешна патрэбна, каб зрасьціся з дзічкай, а каторую агроднікі называюць „душой". Бяз гэтай „душы" вочка, ведама, ня прыймецца. Дзеля таго лепш здыймаць яго разам з дрэвясінай, абы не залішне тоўста.

Вачкаваць трэба чыстымі рукамі, каб пясок у вочка, ані пад кару не засыпаўся. Вочка можна браць у губы, каб не засохла, пакуль парэжыш і ўложыш, але курыць пры гэтай рабоце—нельга.

Хто хочэ навучыцца добра вачкаваць, той павінен прыглядзіцца да гэтай работы пры кім умелым ужо, бо пісаць аб усім у кніжцы, ці газэце доўга і шмат, а сама работа ідзе надта хутка, бо, злажыўшыся, за дзень да тысячы вочак заложыш, калі другі хто будзе абвязываць. А хто угледзіць гэту работу, то с тэй пары зарачэцца шчапіць.

Чаму-ж вачкаваць лепей?

А вось чаму.

1) Сама работа лягчэйшая, дый больш ад яе прыжывае, чым ад шчапеньня.

2) Пара тады цёплая, дык рукі не зябнуць і ня дрыжаць, як пры вясновым шчапеньні.

3) Ня трэба ніякай мазі да гэткай работы, як да шчапеньня.

4) Зразы да вачкаваньня бяруцца проста з дрэва, калі да шчапеньня трэба іх браць ешчэ загадзя, дый важдацца з імі, каб не паглуміліся.

5) Менш тут рэзаць прыходзіцца, а значыцца меншые і раны будуць, каторые хутчэй і лепш гояцца і зажываюць так, што малы зусім сьлед па іх застаецца. Тым часам, прышчэпленае дрэўцэ часта хварэе. А ешчэ, як перэканаліся, вачкаванае дрэўцэ хутчэй расьце, чым прышчэпленае.

6) Каб прышчапіць, трэба на гэта аджалець дзічку, бо калі работа не пашанцуе, то і зрэзанае дзічка амаль не заўсёды прападае. Калі-ж вочка ня прыжыве, то такой бяды: к налецьцю

з вясны можэш зашчапіць гэтую самую дзічку, або ізноў вачкаваць яе летам.

Ведаючы ўсё гэта, калі хто шчапіць такі упрэцца, ну дык што-ж з ім зробіш?—нехай шчэпе...

**Юлік з Моладава.**

# Як выбіраць крэпкаго гаспадарскаго каня.

Хіба ніхто ня будзе сьпірацца, што той конь, каторы здацен да цяжкога возу, ня будзе здацен да шыбкай язды; так сама, як конь, каторы ходзе толькі пад конна, ня згодзен да сахі,—адным словам да кожнай працы патрэбны інакшаго складу і характару конь.

Селяніну патрэбны конь такі, каторы-б мог добра цягнуць саху, ці барану, каб складзен быў да цяжэйшаго возу, дый скора не марыўся-б; конь, значыцца, павінен быць дужы і здаровы, бо толькі такі будзе магчы працаваць карыстна у гаспадарцы. Кожны хочэ мець добраго і здатнаго да працы каня, толькі не ўсякі умее яго, купляючы, выбіраць, ды апрача таго, так ужо здаўна вядзецца, што пры куплі, ці продажы каня стараюцца адзін другога ашукаць і трэба прызнацца, што ні ў водным гандлю німа столькі ашуканства, як у конскім, дык перш, чым набыць каня, трэба яго добра агледзіць і выпрабаваць.

Агледаць каня трэба пачынаць з галавы. Галава павінна быць прыстаўлена да шыі наўскось- знізу ў верх; скура на ёй павінна быць ценькая, гладкая—бяз рубцоў. Вочы трэба каб былі чыстые, бліскучые і гэтак сама без знакоў і рубцоў. Каб не нарвацца на сляпога каня, найлепш зрабіць такую пробу: няпэўнае вока астаўляюць так, як яно ёсць—адкрытым, а здаровае—завязываюць так, каб конь ім нічога ня мог бачыць. Паклаўшы на дарозе бярвеньні, ці так што якое, каня вядуць гэтай дарогай і калі толькі ён сляпы, то напэўна спаткнецца, ці ўдарыцца нагой, калі-ж вока здаровае, то будзе асьцярожна пераступаць і абмінаць уселякіе перашкоды.

Вушамі здаровы конь, як кажуць, гуляе—стрыжэ т. е. паварачывае ў той бок, аткуль чуваць які колечы шум, ці голас; калі-ж конь зусім не варочае вушамі, то значыцца, што ён глухі; іншы конь праз лад ужо круце вушамі, то тады трэба добра зьвярнуць увагу на яго вочы, бо ў гэткім прыпадку найчасьцей бывае прычынай слепата каня на адно, а то і на абодва вокі.

Шыя да самой тушы (туловішча) павінна быць прыстаўлена наўскосць, бо калі яна будзе дужа задзёрта высока, то конь напэўна будзе часта спатыкацца і валяцца, калі-ж шыя

нароўні са спінай, то такі конь скора морыцца. На шыі не павінна быць ніякіх знакоў, ці рубцоў; асабліва трэба добра глядзець пад грывай.

Грудзь трэба агледаць спераду і з боку. Спераду грудзь будзе крэпкая тады, калі яна шырокая і на ёй німа ніякіх знакаў, асабліва ад хамута; з бакоў агледаюць грудзь так: становяцца спераду каня, блізка галавы, і калі глядзець ў доўж каня, то грудзь павінна закрыць жывот. Мейсцэ, на каторым ляжыць хамут-холка павінна быць крыху выжэй, як сам храсьцец у коней, а ў кабылаў—можэ быць і на аднэй лініі; апрача таго, холка павінна быць доўгая і ня дужа вострая, бо інакш ад хамута коні лёгка заціраюцца і лячыць іх прыйдзецца доўга.

Сьпіна ў коней, празначэных да цяжкай працы—вялікаго значэньня не мае, за тое на паясніцу і храсьцец трэба добра зьвярнуць увагу. Паясніца павінна быць доўгая, з раўком на сярэдзіне, а з бакоў—як два крэпкіе валкі—павінны ісьці мускулы. Тое самое трэба сказаць і аб храсцу;—адным словам як паясніца, так і храсьцец павінны быць доўгіе і с крэпкімі, тугімі мускуламі, а гэта дзеля таго, што пры цяжкай працы каня, яму прыходзіцца куды больш налегаць на задніе ногі, чым на пярэдніе. Вось чаму конь, пасьля працы, аддыхаючы, стаіць на абыдвух пярэдніх нагах, а задніе—што раз пераменівае: с правой нагі на левую, то з левай—на правую.

Добра трэба агледаць у каня ногі, а на самперад зьвярнуць увагу на іх пастаў. Пастаў ног лічыцца добрым тады, калі ногі стаяць роўна адна да другой (паралельна), а між пярэднімі капытамі аставацца будзе мейсца столькі, колькі займае шырыня самога капыта, між задніх-жэ капытоў мейсца свабоднаго павінна аставацца ешчэ менш. Пярэдніе часьці капыта (зацэпы) і задніе—пяткі не павінны ані прыбліжацца да сябе, ані разыходзіцца ў бакі. Калі глядзець на каня з галавы, то пярэдніе ногі—павінны закрываць задніе. Апрача таго, трэба ешчэ правесьці каня сперша крокам, а пасьля прагнаць добрым трухам і ўважаць, ці не паднімае ён за лішне высока свае ногі,. ці хоця-б адну нагу—асабліва—задніе; ці не засекае —т. е., ці ня бье пярэдняй нагой (падковай) аб пярэдюю, або задней—аб заднюю, ці ня куе—т. е., ці ня бье пярэдняй часьцяй задняй нагі (зацэпам) у пятку—пярэдняй, бо ад гэтаго робяцца раны, каторые ня скора зажываюць.

Агледаць самые ногі трэба добра, пачынаючы сперша ад капыта. Рог на капыце павінен быць гладкі, бліскучы, без ніякіх бугорчыкоў, ці наростаў, бо ўселякіе гузачкі на капыце—справа падазроная: былі, значыцца, а то і цяпер ешчэ ёсць (толькі залечыны) нейкіе хваробы, а ад гэтаго сам рог такім робіцца крохкім, што нельга будзе падкаваць каня.

На нагах, выжэй капыта, не павінна быць ніякіх знакоў, ці рубцоў, а найбольш трэба асьцерэгацца гэтаго на ўнутрэняй старане нагі, бо гэткіе знакі найчасьцей астаюцца пасьля лячэньня такіх хвароб, каторых зусім вылячыць нельга, а

толькі можна падлячыць, дык праз нейкі час конь ізноў пачне ешчэ горш хварэць.

Самые ногі ў каня, калі яго набываць да цяжэйшай працы, павінны быць кароткіе і тоўстые; калі-ж конь празначэны да лягчэйшай работы і на паяздушкі—то ногі павінны быць тонкіе і доўгіе.

Хочучы захаваць сілу каня, ня трэба яго браць да цяжэйшай работы раней, пакуль ня скончэ пяці гадоў.

*Варшава. Ветэрынарны Інстытут.*

К. Сініцкі.

---

# Сельска-гаспадарская выстаука у Мінску.

Сельска-гаспадарскую выстаўку, каторая сёлета была ў Мінску 18—20 мая, нельга назваць удалай. Прычына, бадай, тая, што цяпер гаспадарскіе выстаўкі пачаліся адбывацца на правінціях: па мястэчках і паветовых гарадох Беларусі і Літвы. Гэткім парадкам, правінція, маючы свае мейсцовые (районные) выстаўкі, непатрэбавала цягнуцца далёка і траціць дарагі рабочы час, і дзеля таго Мінская выстаўка сама сталася толькі мейсцовай, толькі районнай—бяз прэдстаўнікоў правінціальных гаспадарак. Само сабой разумеецца, што і такіе выстаўкі патрэбны і карысны для мейсцовай гаспадаркі—для бліжэйшых аколіц самога Мінску; хочучы-жэ захапіць і ўцягнуць сюды шырэйшые гаспадарскіе кругі, трэба і шырэйшую вясьці агітацію і арганізацію, назначаючы на гэта спэціальные (гады што 3, ці 5) выстаўкі, дый сам час трэба выбіраць больш падхадзячы, як напрыклад, кірмаш на дзесятуху, калі бывае такі вялікі з'езд і прадаўцоў, і пакупшчыкоў.

На выстаўцы с паміж рагатай скаціны былі ўсе тые аборы, што і летась. Найлепшые каровы былі гр. Чапскаго. Конеў навялі нават крыху болей, чым ў 1912 гаду, паміж каторых шмат было пекных конеў вясковых гаспадароў.

А. У.

---

# 25-ая гадаушчына працы А. Бэрнатовіч.

25 гадоў мінула, як п. А. Бэрнатовіч пачала сваю ціхую працу для прасьветы селянскай маладзяжы і карысьці роднаго краю. Праз увесь гэты час не мала выйшло пад кірункам п. А. Бэрнатовіч практычных працаўнікоў і працаўнічак у садаўніцтве і агародніцтве. Разсыпаліся яны ва ўсе староны Беларусі і Літвы і гэткім парадкам шырыцца і разрастаецца добрая, важная і патрэбная справа для ўсяго краю.

25 гадоў вытрывалай працы—час, праўда, не малы, але за тое і жніво вялікае: па нім можэм бачыць, што можэ здалець хаця-б адзін чэлавек пры сваей рупнасьці і добрай волі.

# Што было аддрукована у сельска-гаспадарскім месячніку „Саха“ за 1912—1913 гаспадарскі год (ад 1-го да 13 нумэру).

№ кн.



### Агародніцтва.



### Вэтэрынарыя.



№ кн.



### Выстаукі.



### Навука і практыка.

| № кн. | |
|---|---|
| 3 | Лісты агранома. *Агроном з Беларусі.* |
| 9 | Які звычайны і які найбольшы бывае ураджай. |
| 11 | Нашые выганы. *К-а.* |
| 12 | Наша паша *Л. Папроцкі.* |
| 5 | Змаганьне с сыпучымі пескамі ў Міншчыне. *А.П. Галяхоускі.* |
| 10 | Лаза. *Ш-кі.* |
| 9 | Ці можна садзіць у нас хмель на продаж. |
| 6 | Як зьвясьці хвошч. |
| 6 | Як выгнаць кратоў. |
| 2 | Новы способ абіваньня галовак лёну. |
| 11 | Град. *Н. Вілецкі.* |
| 12 | Як ратавацца ад пажару. *Sodalis.* |
| 3 | Калі рубаць дрэва на будоўлю. |
| 4 | Аб апеньках. |
| 2 | Беларуская мера на збожэ. |
| 9 | Ці трэба забіваць ласак. |
| 7 | Як зрабіць добры, а танны сыр. *Л. Папроцкі.* |
| 2 | Напітак пры гарачцы. |

---

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха" за стацьі аб насеньнях дастала

**срэбную мэдаль.**

---

Гадавік „Сахі" (ад 1 да 13 нум.) каштуе 1 р. 20 к.; особные нумэры—па 10 кап. с перасылкай.

Цэна абвестак за строчку пэтіту ў поўкалонны: перад тэкстам 40 к.; пасьля тэксту 20 к. Страніца перад тэкстам 30 руб.; пасьля тэксту 15 руб. Для тарговых фірм скідкі %.

Адрэс Рэдакціі „Сахі": Вільня 29.

Падпіска прыймаецца ад пачатку кожнага месяца. Цэна на год 1 р. 20 к.; на 6 месяцоў — 60 к. Можна прысылаць маркамі.

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч" Вільня.

## ВИЛЕНСКОЕ ОТДѢЛЕНІЕ

# РУССКО-АМЕРИКАНСКАЯ ЛИНІЯ

# Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства



**ЕДИНСТВЕННОЕ**
**прямое сообщеніе**
**между**
**ЛИБАВОЙ и ГАЛИФАКСОМЪ**
**(КАНАДА)**
**безъ пересадокъ**
**10 дней пути**

Русско-Американская Линія Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства является единственнымъ Пароходствомъ, поддерживающимъ прямые безпересадочные рейсы между ЛИБАВОЙ и НЬЮ-ІОРКОМЪ и ГАЛИФАКСОМЪ (Канада) спеціально для этой линіи оборудованными пассажирскими параходами, которые кромѣ своей быстроходности, отличаются удобствомъ и комфортабельностью пассажирскимъ помѣщеній всѣхъ классовъ.

Переѣздъ изъ ЛИБАВЫ въ НЬЮ-ІОРКЪ или ГАЛИФАКСЪ совершается на первоклассныхъ почтово-пассажирскихъ двухвинтовыхъ параходахъ: „ЦАРЬ“, „КУРСКЪ“, „РОССІЯ“ и „БИРМА“ и продолжается около 10-ти дней.

Параходы отходятъ изъ Либавы регулярно каждыя двѣ недѣли по вторникамъ.

Относительно условій проѣзда и др. подробностей просимъ обращаться письменно или лично непосредственно въ наше Виленское Отдѣленіе, Вильна Конная ул. 4, у Острыхъ Воротъ телефонъ 10—63. Адресъ Главной Конторы: ЛИБАВА, Кургаузскій пр. 2, Собственный домъ.